


[illegible] жыхары Бараўхі-1 другі год чакаюць рамонту свайго пад'езду




Брат за [illegible] Алег і Міхаіл Батурыны супраць МУС




Адкрыцьцё Амэрыкі: сябра "Вясны" наведала Новы Сьвет


# НАША ПРАВА

Інфармацыйны бюлетэнь Навапалацкага прадстаўніцтва Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

№4 ЛЮТЫ 2000



адрэса для допісаў: а/с 90 Навапалацак-7 211440 тэл.\факс (8-02144) 5-41-30 e-mail: andyxx@aport.ru


## "ПЕРАМОВЫ, ПЕРАМЕНЫ, ПЕРАМОГА!"

### *лёзунг аб'яднанай апазыцыі на Вясну-2000*

**18 студзеня ў Менску адбылася прэс-канферэнцыя сябраў Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, у якую ўваходзяць прадстаўнікі найбольш уплывовых палітычных партыяў і арганізацыяў.**

Гэта старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка, ягоны намесьнік, віцэ-прэзыдэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікалай Статкевіч, намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандар Дабравольскі, актывіст "Хартыі-97" Зьміцер Бандарэнка і прадстаўнікі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька і Павал Данэйка.

Менавіта яны сталі арганізатарамі знакамітага Марша Свабоды 17 кастрычніка мінулага году. На прэс-канферэнцыі было абвешчана аб правядзеньні аб'яднанымі сіламі апазыцыі серыі масавых акцыяў пад агульнай назвай Вясна-2000. У сакавіку адбудуцца дзьве буйныя акцыі: "Марш Свабоды-2" (15 сакавіка) і Дзень Волі (25 сакавіка). Па словах арганізатараў, улады ня могуць забараніць правядзеньне акцыі 15 сакавіка - у дзяржаўнае сьвята Дзень Канстытуцыі. Плануецца, што "Марш Свабоды-2" пройдзе ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Незалежнасьці, як і трэба падчас любога дзяржаўнага сьвята.

Мэтай акцыі абвешчана падтрымка перамоўнага працэсу паміж уладамі й апазыцыяй, а таксама абарона незалежнасьці Беларусі. Запланаваны ўдзел каля 100 тысячаў чалавек. Для назіраньня за падзеямі "Маршу" прыедуць назіральнікі з парлямантаў Летувы, Польшчы, Украіны, Расеі, прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацыяў. ■




## *чаго баяцца ўлады навапалацку?*

Андрэй Аляксандраў

**26-27 лютага ў Навапалацку адбыўся сэмінар, прысьвечаны праблемам мясцовага самакіраваньня й дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў. Сярод запрошаных на сэмінар былі прадстаўнікі мясцовых уладаў. Аднак яны ня толькі не прынялі ў ім удзел, але й ня далі дазволу на правядзеньне гэтага мерапрыемства.**

Сэмінар ладзіўся прадстаўнікамі двух фундацыяў - імя Льва Сапегі й імя Фрыдрыха Эберта. Ён зьяўляўся часткай праграмы сэмінараў, што мусяць ахапіць усе рэгіёны краіны. Па ўмовах фундацыяў, разам з прадстаўнікамі трэцяга сэктару магчымасьць навучацца на гэтых трэнінгах ёсьць і ў прадстаўнікоў мясцовых уладаў. На папярэднім сэмінары - у Рэчыцы - ніякіх праблемаў з гэтым не было. Побач з сябрамі недзяржаўных суполак свае веды па праблемах самакіраваньня падцягвалі прадстаўнікі мясцовага выканкаму й Савету дэпутатаў. Іхнія навапалацкія калегі зноў "зарыгінальнічалі".

Намесьнік старшыні гарвыканкаму па інфармацыі й стасунках з грамадзкасьцю Сьвятлана Туранок зьвязалася напярэдадні сэмінару з ягонымі навапалацкімі арганізатарамі. Яе адказ на запрашэньне да ўдзелу ў працы мерапрыемства быў даволі своеасаблівым.


працяг на старонцы 3

# СПРАВА АБ ЯЙКАХ

## *расейскі "фірмач" падставіў нашага суайчыньніка*

Пастанаўленьнем суддзі Расонскага раёну ад 29 красавіка 1999 г. К. быў аштрафаваны на 25 млн. рублёў з канфіскацыяй аўтамашыны "Мэрсэдэс-Бенц-307" на падставе дэкрэта Прэзідэнта №15 за тое, што быццам бы спрабаваў вывезьці за межы краіны яйкі курыныя ў колькасьці 27432 штук без атрымання на тое дазволу Міністэрства сельскай гаспадаркі РБ.

28 красавіка 1999 г. да К. зьвярнуўся знаёмы, прадстаўнік расейскага таварыства з абмежаванай адказнасьцю "Ладага" Пузікаў, які папрасіў даставіць курыныя яйкі з Полацкай птушкафабрыкі ў вёску Краснапольле Расонскага раёну. К. на машыне "Мэрсэдэс-Бэнц-307", якая належыць ягонай жонцы, давез курыныя яйкі згодна з дамоўленнасьцю да вескі, дзе тавар быў перагружаны на трактар. К. адразу зьехаў. Далей груз трактарыстам з Краснапольля у суправаджэньні Пузікава і аднаго зь мясцовых жыхароў перамяшчаўся да расейскай мяжы ў аб'езд мытнага паста, і быў затрыманы ў вёсцы Сельнікі міліцыяй. У суправаджальных дакумантах адсутнічаў дазвол Міністэрства сельскай гаспадаркі на вываз прадукцыі за межы Рэспублікі Беларусь. Але ніводзін з гэтых трох асобаў не прадстаў перад судом. На лаўцы падсудных апынуўся толькі К.

Яйкі пастаўляліся Полацкай птушкафабрыкай згодна з дамовай тавараабмену на адрас ТАА "Ладага-Імпарт". Згодна з п. 2.2.1 дамовы, пастаўка мусіла ажыцяўляцца транспартам пакупніка, гэта значыць - расейскім ТАА. Таму ўсе патрэбныя для транспартыроўкі яек дакуманты, у тым ліку дазвол на вываз за межы рэспублкі, павінен быў падрыхтаваць экспедытар гэтай арганізацыі Пузікаў. І адказнасьць за парушэньне ўсталяванага парадку перавозу павінна была ўскладацца на абавязаны бок, а не на перавозчыка, якім па дамоўленасьці быў К. Ён быў простым выканаўцам. Да таго ж, пры затрыманьні ў ягонай машыне ЯЕК НЕ БЫЛО, так што нават факту перавозу ім гэтай дыетычнай прадукцыі праз мяжу не магло быць засьведчана ніякім чынам. Аднак менавіта перавозчык і пацярпеў у дадзеным выпадку. Да сапраўднага парушальніка Пузікава ніякіх прэтэнзіяў у суддзі - па невядомых прычынах - не аказалася. Быццам бы ні пры чым апынуліся і два жыхары Краснапольля, якія фактычна і везьлі яйкі празь мяжу, спрабуючы абмінуць памежны пост.

К. зьвяртаўся ў шэраг дзяржаўных установаў, якія павінны былі адэкватна зрэагаваць на парушэньне ягоных правоў -- Віцебскі абласны суд, Віцебскую абласную пракуратуру, Генеральную пракуратуру РБ. Але безвынікова. Ніводная з установаў не знайшла мэтазгодным абараніць свайго суайчыньніка й пакараць прадстаўніка расейскай фірмы, які фактычна яго падставіў.

Дазвол Мінсельгаса рэспублікі прыйшоў толькі 4 верасьня, больш чым праз 3 месяцы пасьля абвяшчэньня прысуду. Аднак расейскую фірму наўрадці зараз турбуе лёс беларуса К., чыёй даверлівасьцю "фірмач" Пузікаў гэдак лоўка скарыстаўся. У адказ на заяву ў Генеральную пракуратуру Беларусі, складзеную юрыстам Наваполацкага прадстаўніцтва Праваабарончага Цэнтру "Вясна", прыйшло паведамленьне: пакінуць прысуд суддзі ў сіле. З гэтым адказам памерла й спадзяваньне на ўсталяваньне справядлівасьці ў гэтай справе.

# *рамонт, які зацягнуўся*

## *жыхары Баравухі-1 ужо другі год дабіваюцца ад уладаў рамонту свайго пад'езду*

У грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру "Вясна" зьвярнуліся жыхары дому №8 з Баравухі-1. Дакладней, жыхары ягонага 2-га пад'езду. Напрацягу ўжо 12 гадоў вядзецца капітальны рамонт іхнага дому. Тры пад'езды ўжо адрамантаваныя, а іхны рамонтнікі чамусьці абмінулі сваёй увагай. Хаця становішча жыхароў кватэраў 9-16 інакш, чым жахлівым не назавеш. Сантэхніка згніла амаль цалкам, ваконныя блокі разбураныя, гледзячы на пад'езд увогуле цяжка ўявіць, што у ім можна жыць.

Другі год жыхары пад'езду пішуць калектыўныя скаргі. У сьнежні 1998 году яны атрымалі адказ ад дырэктара прадпрыемства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Баравухі сп.Трацьцякова, што заяўка на рамонт пададзена, і рамонт пачнецца пасьля атрыманьня фінансаваньня. У красавіку наступнага году ён праінфармаваў жыхароў, што "у сувязі з абмежаванасьцю фінансавых сродкаў капітальны рамонт у 1999 годзе не прадугледжаны". Але паабяцаў набыць і ўсталяваць у кватэрах сантэхніку. Гэтага жыхары нешчасьлівага пад'езду чакаюць дагэтуль.

Між тым, мясцовыя ўлады, што ўвесь час спасылаліся на адсутнасьць сродкаў, пачалі рамонт суседняга дому -- №4. 2-га пад'езд дому №8 гэдак і застаецца неадрэмантаваным. 3 лютага ад сп.Трацьцякова прыйшоў чарговы адказ: "Рамонт вашага дому будзе завершаны толькі пасьля рамонту дому №4"... А абяцаньням наконт "падтрымліваючага рамонту" жыхары пад'езду ўжо ня надта даюць веры...





Наша ПРАВА
Інфармацыйны бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
№4 люты-2000
Рэдактар: Андрэй Аляксандраў
Наклад: 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правох рукапісу.
Бюлетэнь зьвярстаны й выдадзены на абсталяваньні Праваабарончага Цэнтру "Вясна"
Кантактаваць з рэдакцыяй магчыма:
па тэлефоне альбо факсе (8-02144) 5-41-30
па адрэсе а\с 90, Наваполацак-7, 211440
па электроннай пошце andyxx@aport.ru

# чаго баяцца ўлады наваполацку?

праця́г са старонкі 1

Спн.Туранок заявіла, што... не дае дазволу на правядзеньне сэмінару. Абгрунтавана забарона была тым, што фундацыя імя Сапегі быццам бы ня мае зарэгістраванага прадстаўніцтва ў Наваполацку. Хаця ў статуце арганізацыі -- зарэгістраваным на законных падставах у Міністэрстве юстыцыі -- чорным па белым запісана, што фундацыя ёсьць агульнарэспубліканскай арганізацыяй, яе дзейнасьць распаўсюджваецца на ўсю тэрыторыю Рэспублікі Беларусь без абмежаваньняў і рэгіянальныя прадстаўніцтвы могуць не ствараццa.

Сэмінар, нягледзячы на пазыцыю ўладаў, адбыўся. Прадстаўнікі мясцовых філіяў БНФ, АГП, Маладога Фронту, Праваабарончага Цэнтру "Вясна" ды іншых арганізацыяў праслухалі цікавы расповяд вядомага беларускага палітолага Ірыны Бугровай аб палітыцы й грамадзтве, даведаліся з выступу экс-спікера парляманту рэспублікі Мечыслава Грыба аб новым антыдэмакратычным Выбарчым Кодэксе, вялі дыялёг ад мясцовым самакіраваньні й ролі грамадзкіх аб'яднаньняў у грамадзтве.

Ніякіх захадаў па зрыву мерапрыемства з боку выканкаму не было. Але, як высьветлілася пазьней, мясцовыя ўлады зусім не зьбіраліся пакідаць гэтую справу без увагі.

Як стала вядома рэдакцыі Інфармацыйнага бюлетэню "Наша права", адразу пасьля заканчэньня сэмінару гарадзкая "вертыкаль" выказала прэтэнзіі да кіраўніцтва рэстарацыі "Пралеска", дзе харчаваліся ўдзельнікі "забароненага" мерапрыемства. Дырэктару рэстарацыі ў недвусэнсоўных выразах далі зразумець, што ён "зрабіў кепска", што харчаваў удзельнікаў "апазыцыйнага" сэмінару. Недакладным у дзеяньнях кіраўніцтва рэстарацыі, да думку некаторых "дзеячоў" з наваполацкага гарвыканкаму, было тое, што яны... не падпісалі дамову з прадстаўнікамі фундацый Фрыдрыха Эберта і Льва Сапегі. Гэта ўжо выдае, прабачце, на звычайны маразм. Зь якога часу для таго, каб пад'есьці ў рэстарацыі, трэба падпісваць дамову зь ягонай адміністрацыяй?

А кульмінацыяй у размове ўладаў з "Пралескай" стала абяцаньне... канфіскаваць усе грошы, атрыманыя рэстарацыяй за абслугоўваньне "апазыцыянераў". Маўляў, усё роўна дасталіся яны вам незаконна, дык лепей вы проста аддайце "апазыцыйныя мільёны" ў казну...

Тлумачэньне гэткіх дзеяньняў прадстаўнікоў "вертыкалі" можа быць толькі адзінае. Асьлепленыя страхам перад усім "апазыцыйным", улады не зважаюць на тое, што фактычна парушаюць закон. Прычым наступаюць другі ўжо раз на тыя ж граблі. Ня гэдак даўно спн.Туранок безпадстаўна патрабавала рэгістрацыі ў гарвыканкаме філіі Праваабарончага Цэнтру "Вясна", што супярэчыла статуту арганізацыі. Нагадаем, што за тыя дзеяньні яна атрымала папярэджаньне з пракуратуры. І вось зноў тая ж гісторыя.

Відавочна, пасьля правалу выбарчай кампаніі ў красавіку мінулага году (Наваполацак стаў адзіным горадам рэспублікі, дзе антыдэмакратычныя выбары ў мясцовыя саветы не адбыліся) гарадзкія ўлады вельмі клапоцяцца пра сваё рэнамэ ў вачах вышэйстаячых па "вертыкалі" чыноўнікаў. Таму ў дачыненьні да любых дзеяньняў незалежных арганізацыяў у іх існуе адзіная палітыка: забараніць, не дазволіць, не пусьціць. Але ў сваім паймкненьні яны нярэдка забываюцца на закон дый увогуле на здаровы сэнс. Бо фундацыі, якія гарвыканкам хацеў "не пусьціць" у Наваполацак, маюць афіцыйныя прадстаўніцтвы ў нашай краіне й карыстаюцца вялікім аўтарытэтам ва ўсім сьвеце. Аднак у сёньняшняй Беларусі, здаецца, адзіным сапраўдным аўтарытэтам для мясцовых уладаў ёсьць чалавек, які дагэтуль лічыць сябе прэзыдэнтам краіны. Дык што ж мы маем за найвялікшую каштоўнасьць: ласку вышэйшага начальніка ці Закон? ■

*Эксклюзіўнае інтэрвію са старшынёй Вярхоўнага Савету 12 скліканьня сп.Мечыславам Грыбам чытайце ў наступным нумары бюлетэню "Наша права"*

# ПРАЦЭС НАД УДЗЕЛЬНІКАМІ "МАРШУ СВАБОДЫ"

## *як сродак запалохваньня беларускай моладзі*

**У Менскую гарадзкую пракуратуру перададзена крымінальная справа на чатырох маладых людзей - Антона Лазарава, Андрэя Валабуева, Глеба Догіля й Германа Сушкевіча - удзельнікаў "Маршу Свабоды".**

Ім інкрымінуецца ўдзел у несанкцыяваным шэсьці й злоснае хуліганства. У апошнім хлопцаў абвінавачваюць на падставе сьведчаньняў трох міліцыянтаў, якія быццам бы бачылі, як яны кідалі камяні ў парку Горкага. Падчас прагляду апэратыўнае міліцэйскае відэаздымкі можна заўважыць, што маладыя людзі камянёў не кідалі й увогуле былі на вуліцы, а не ў парку. Але відэазапіс не зьяўляецца доказам у судзе, таму пры вынясеньні прысуду суддзя будзе кіравацца сьведчаньнямі міліцыянтаў.

Ці прыцягваць сваіх сьведкаў, хлопцы пакуль не вырашылі. "Ёсьць людзі, якія нас бачылі. Але можа здарыцца так, што крымінальныя справы завядуць і на іх, за ўдзел у мітынгу. Таму мы можам выклікаць сьведкаў, але трэба прымерквацца так, каб для гэтых людзей не было потым ніякіх цяжкасьцяў у працы, навучаньні ды ўвогуле ў жыцьці", -- сказаў Герман Сушкевіч у інтэрвію газэце "Беларуская маладзёжная".

Зараз хлопцам "сьвеціць" ад 1 да 5 гадоў пазбаўленьня волі -- гэткае пакараньне прадугледжвае другая частка артыкулу 201 Крымінальнага кодэксу "Злоснае хуліганства". Але нават калі суд прызнае за маладымі людзьмі не крымінальнае злачынства, а адміністратыўнае правапарушэньне, іх чакае выключэньне з вышэйшых навучальных установаў.

З усяго відаць, што ўлады спрабуюць рэпрэсіўнымі захадамі напалохаць беларускую апазыцыйную моладзь напярэдадні масавых акцыяў Вясны-2000. ■



*10 лютага ў газэце "Народная воля" быў надрукаваны ліст старшага інспэктара групы забесьпячэньня Галоўнага ўпраўленьня кадраў Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, старшага лейтэнанта міліцыі Алега Батурына. Ягоны зьмест і падзеі, што адбыліся пасьля апублікаваньня ліста, падказалі рэдакцыі бюлетэню "Наша права" ідэю зьмясьціць на сваіх старонках цалкам гэты зварот беларускага афіцэра. Тэкст падаецца паводле газэтнай публікацыі бязь зьменаў.*

# Господа офицеры, хватит быть рабами!

Уважаемая редакция "Народной воли"! Пишу вам потому, что больше не могу молчать. Не могу спокойно читать про то, что произошло 17 октября во время акции "Марш Свободы".

Вы пишете правду, но эта правда для меня очень больная, так как я всё видел глазами демонстрантов, но в кармане у меня лежало удостоверение старшего лейтенанта милиции. Моей задачей было всё фиксировать и запоминать, кроме того, после шествия задерживать наиболее активных участников акции и тех, кого мне прикажут задержать.

Но основная задача была - провоцировать столкновения, выкрикивать оскорбительные лозунги и направлять движение людей туда, куда было надо милиции.

К сожалению, среди тех, кто кидал камни, была и просто отчаявшаяся молодёжь, но все их действия были спровоцированы и заранее подготовлены. Толпу специально направляли к месту столкновения, где заранее были сложены камни, к тому месту, где её взяли в "коробочку" ОМОН и внутренние войска.

Все наши действия были оговорены на инструктаже в Главном управлении кадров МВД первым заместителем Л.М.Рябцевым и его замом В.А.Михайловским (так как я сам являюсь старшим инспектором кадров МВД). Было также и "промывание мозгов", мол, те, кто соберутся, это мразь и отребье, которое надо раздавить, так как они мешают продуктивно работать нашему "любимому президенту". Поэтому не надо бояться кого-то ударить или избить, с нами - закон и порядок, поэтому не бойтесь.

Длилась эта обработка 2 часа, после чего были розданы радиостанции и нас "внедрили в толпу". Знаю, что в этот день у всей минской милиции было усиление, что такую же обработку проводили и в ГУВД, и в районных отделах милиции. Поэтому не удивляйтесь, когда на шествие организованно приходят определённого вида мальчики - это наши "стражи порядка". Не говоря уже о том, что 100 процентов милиции сидят в автобусах по подворотням или со щитами перекрывают весь центр города. Это кроме внутренних войск, КГБ, охраны президента (бывшего), пожарных подразделений и т.д. А когда люди спокойно расходятся, хватают их, избивают, тащат в РОВД. Вот такая у нас "демократия".

Почему я всё это написал? Я знаю, что мне будет за такое письмо. Но я устал служить незаконному президенту, срок полномочий которого истёк 20 июля 1999 года. Устал быть участником преступления, когда убиты (к сожалению, шансов на то, что они живы, очень мало) Гончар, Захаренко и Карпенко. А мы все, когда молчим, - участники. Когда в тюрьме депутат по моему округу Климов, когда уважаемый труженник Старовойтов обвиняется в воровстве только за то, что имел смелость всегда оставаться человеком. Когда детей сажают за надпись на заборе, когда лидеры оппозиции, уважаемые во всём мире люди - сидят на Володарке, на Окрестино, объявляют голодовку или вынуждены скрываться за границей. Когда профессор Ходыко сидит в камере за то, что участвовал в "Чернобыльском шляхе", и только благодаря действиям своих соратников в Беларуси и на Западе отпущен. Когда за одно стихотворение можно узнать, что такое СИЗО КГБ. Когда против сотен демонстрантов (лучших людей моей Родины) состряпаны административные протоколы, а против некоторых ещё и уголовные дела, когда А.Лебедько и другим грозит участь В.Гончара.

Я не хочу работать в такой милиции, не хочу, чтобы мои дети и внуки смотрели на меня с презрением. Знаю, что наш бывший министр Юрий Захаренко, создавая Союз офицеров, подписал себе смертный приговор. Приходилось с отвращением смотреть, как на лекциях Сивакова отпускались шутки в адрес этого человека, как после Сивакова выступали Удовиков и Жадобин (заместители министра МВД) и говорили про Захаренко, что "туда ему и дорога". Создавалось впечатление, что на дворе не 1999-й, а 1937 год.

Хочу обратиться к белорусскому народу, не прячась за псевдонимом. Друзья, знайте - в милиции есть тысячи порядочных людей, которым надоело быть быдлом и служить Иуде. Только у них, как и у вас, семьи, любимые, дети и какая-никакая, а работа. Я говорил со многими милиционерами. ПОДАВЛЯЮЩАЯ ЧАСТЬ ненавидит режим не меньше вас. Многие из тех, кто в день выступления хлопал, после говорили, "что лучшего министра, чем Захаренко, в Беларуси не было...".

Я верю, что придёт день, и мы все вместе: и милиционеры, и рабочие, и интеллигенция ВЫЙДЕМ НА УЛИЦЫ. И НАС БУДЕТ СОТНИ ТЫСЯЧ. РЕЖИМ НЕ ВЕЧЕН! ГОСПОДА ОФИЦЕРЫ, ХВАТИТ ВРАТЬ САМИМ СЕБЕ И КАЖДЫЙ ДЕНЬ ТОПИТЬ СОВЕСТЬ В ВОДКЕ! КОГДА МИЛИЦИЯ БУДЕТ ВМЕСТЕ СО СВОИМ НАРОДОМ, РЕЖИМ ПОГИБНЕТ! ОПОМНИТЕСЬ И СДЕЛАЙТЕ ТО, О ЧЁМ ВЫ ШЕПЧЕТЕСЬ В КАБИНЕТАХ И У СЕБЯ ДОМА! ХВАТИТ БЫТЬ РАБАМИ!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Олег БАТУРИН,*
старший инспектор группы обеспечения Главного управления кадров МВД Республики Беларусь, старший лейтенант милиции

# БРАТ ЗА БРАТА

## Блізкія мужнага афіцэра міліцыі падвяргаюцца перасьледу

По матэрыялах рэспубліканскае прэсы



10 лютага. Менск. Управа БНФ "Адраджэньне" Міхаіл Батурын і ягоная нявеста Натальля падчас прэс-канферэнцыі

**10 лютага - гэта значыць у дзень апублікаваньня ліста Алега Батурына ў "Народнай волі" - адбыўся напад на ягонага старэйшага брата Міхаіла.**

Каля 15.00 Міхаіл Батурын - майстар спорту міжнароднага клясу па шахматах, студэнт Менскага лінгвістычнага універсітэту - накіроўваўся дадому. У пад'ездзе яго спынілі два невядомыя чалавекі, якія прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі й прапанавалі "паразмаўляць". Міхаіл папрасіў прад'явіць пасьведчаньне, але ў адказ атрымаў удар у грудзі. Людзі ў штацкім патрабавалі ад Батурына, каб той напісаў заяву аб псіхічнай хваробе свайго малодшага брата, але той адмовіўся. Пасьля гэтага ён пачуў пагрозы расправы зь ягонымі сваякамі ды нявестай. Завязалася барацьба, і Міхаілу ўдалося вырвацца. Ён адразу ж накіраваўся на працу да сваёй нявесты Натальлі, адкуль разам зь дзяўчынай прыехаў ва Управу Беларускага Народнага Фронту. Была склікана тэрміновая прэс-канферэнцыя, на якой Міхаіл Батурын распавёў пра здарэньне.



17 кастрычніка 1999г. Менск. Марш Свабоды. Сьведчаньні ўдзельнікаў акцыі цалкам пацьвярджаюць заяву Алега Батурына

Падчас размовы з прадстаўнікамі прэсы ён заявіў наступнае: "Калі нехта будзе казаць вам пра тое, што Алег псіхічна ненармальны, гэтаму верыць нельга..." У псыхічным здароўі брата Міхаіл не сумняваецца - Алег Батурын зьяўляецца афіцэрам міліцыі й рэгулярна праходзіў мэдкамісіі.

Пра падрыхтоўку публікацыі ў "Народнай волі" старэйшы брат нічога ня ведаў, але цалкам падтрымлівае малодшага. Міхаіл ня ведае, дзе знаходзіцца Алег, але ўпэўнены, што на волі і ў пэўнай бясьпецы. Пасьля прэс-канферэнцыі "ў бясьпечнае мейсца" прадстаўнікамі БНФ былі накіраваныя і Міхаіл Батурын зь ягонай нявестай. Беларускі Народны Фронт заявіў, што вітае мужны крок Алега Батурына і зробіць усё магчымае, каб абараніць афіцэра міліцыі й ягоных родных ад рэпрэсіяў з боку ўладаў. БНФ выказвае спадзяваньне, што мужны ўчынак афіцэра стане прыкладам для ягоных калегаў, якія не дапусьцяць правакацыяў з боку ўладаў падчас масавых акцыяў Вясны-2000.

Тым часам стала вядома, што кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных справаў рэспублікі паставіла пытаньне аб узбуджэньні крымінальнае справы супраць Алега Батурына за ілжывыя сьведчаньні. Вядома, зараз, калі план абвесьціць яго псіхічна хворым з дапамогай брата праваліўся, вышэйшыя чыны з МУС паспрабуюць замяць скандал любымі іншымі сродкамі.

Таксама высьветлілася, што напярэдадні апублікаваньня ліста ў "Народнай волі" відэазапіс з прызнаньнем старшага лейтэнанта быў перададзены ў шэраг замежных амбасадаў і ў кансультацыйна-назіральную групу Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтву ў Эўропе па Беларусі. ■

# АДКРЫЦЬЦЁ АМЭРЫКІ

## сябра наваполацкага прадстаўніцтва праваабарончага цэнтру "вясна" ў складзе дэлегацыі беларускіх юрыстаў наведала новы сьвет

З 15 па 30 студзеня гэтага году дзесяць юрыстаў зь беларускіх грамадзкіх арганізацыяў наведалі Злучаныя Штаты Амэрыкі. Паездка была зарганізавана Амэрыканскай асацыяцыяй юрыстаў у межах праграмы "Прававая ініцыятыва у Цэнтральнай і Усходняй Эўропе" (ABA/CEELI). У беларускай дэлегацыі былі прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў, Свабоднага й Незалежнага прафсаюзу. Сярод удзельнікаў візіту была й выкладчыца юрыдычнага факультэту Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту й сябра Наваполацкага прадстаўніцтва Праваабарончага Цэнтру "Вясна" ***Тацьцяна Кавальчук***. Уражаньнямі ад свайго "адкрыцьця Амэрыкі" яна падзялілася з карэспандэнтам бюлетэню "Наша права".

— Наш візіт працягваўся 2 тыдні. Першы зь іх беларуская дэлегацыя правяла ў Вашынгтоне, затым перамесьцілася ў Чыкага. Праграма візіту была вельмі напружанай. За гэты час мы зрабілі некалькі дзесяткаў наведаньняў у амэрыканскія праваабарончыя арганізацыі, фонды й агенцыі па аказаньню юрыдычнай дапамогі, прафсаюзныя арганізацыі.

У Амэрыцы вельм шмат арганізацыяў, якія аказваюць бясплатную юрыдычную дапамогу розным катэгорыя насельніцтва, напрыклад малазабясьпечаным, эмігрантам, нацыянальным ды іншым меншасьцям. Ёсьць нават юрысты, якія спэцыялізуюцца на аказаньні прававой дапамогі прадстаўнікам сэксуальных меншасьцяў. У Чыкага каля 12 такіх арганізацый, больш таго, у кожным раёне гораду існуе асобны філіял кожнай зь іх. Арганізацыі працуюць з канца 70-х гадоў, калі пачалася шырокая хваля іхнага ўзьнікненьня. Яны маюць значны вопыт, рэпутацыю. Пра іхнае існаваньне ведае кожны, таму вельмі шмат людзей зьвяртаюцца да іх за дапамогай.

***— А ці можна параўнаць дзейнасьць праваабарончых арганізацыяў у Амэрыцы й на Беларусі?***

— З аднаго боку, і ў іхняй дзейнасьці і ў нашай шмат агульнага. Асноўныя катэгорыі справаў і ў амэрыканскіх і ў беларускіх праваабарончых арганізацыяў - гэта пытаньні атрыманьня ільготаў, пенсій, жыльлёвыя пытаньні, сямейнае права, правы спажыўцоў, працоўныя пытаньні.

Галоўная розьніца - у стаўленьні дзяржавы да амэрыканскага грамадзкага сэктару ўвогуле й да праваабаронцаў у прыватнасьці. Большую частку грошай арганізацыі атрымліваюць менавіта ад дзяржавы. Дзяржава ідзе ім насустрач ва ўсім. І гэта зразумела: арганізацыі бяруць на сябе шмат праблемаў па кансультаваньню розных слаёў насельніцтва, праводзяць адукацыйныя праграмы, што тычацца такіх актуальных праблемаў як гвалт у сям'і, наркотыкі, СНІД. У судах грамадзкія арганізацыі могуць праводзіць рэкляму сваёй дзейнасьці перад працэсам, у якім яны удзельнічаюць. Не ўздымаецца перад імі й балючага для беларускіх НДА пытаньня аб юрыдычнай адрэсе. У судах праваабарончым арганізацыям дазваляюць здымаць кабінет пад офіс.

***— А як да іхнай дзейнасьці ставіцца грамадзкасьць?***

— Цалкам прыхільна. Насуперак усталяванаму стэрыятыпу, у Амэрыцы даволі шмат малазабясьпечаных людзей, якія ня могуць дазволіць сабе наняць прыватнага юрыста. Таму бясплатная дапамога, якую аказваюць праваабарончыя і кансультацыйныя арганізацыі, карыстаецца вялікай папулярнасьцю.

Сярод амэрыканскіх юрыстаў, дарэчы, вельмі пачэсным лічыцца бясплатнае кансультаваньне, бясплатная дапамога, праца на карысьць грамадзтва. Яна завецца ў Амэрыцы лацінскім выразам ***pro bono***. Штогадовыя ўзнагароды лепшаму юрысту, як працуе ***pro bono***, лічацца вельмі ганаровымі і значна ўплываюць на ягоную прафэсійную рэпутацыю. Нярэдка прыватныя юрысты аказваюць фінансавую падтрымку недзяржаўных юрыдычных арганізацыяў.

***— Тацьцяна, я ведаю, што акрамя працы ў Праваабарончым Цэнтры "Вясна" ты выкладаеш на юрыдычным факультэце Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Ці знаёміліся вы з сістэмай вышэйшай юрыдычнай адукацыі ў Амэрыцы?***

— Так. Падчас візіту ў Чыкага наша дэлегацыя наведала Кентскі юрыдычны коледж. Уражаньні ад яго для мяне, як маладога выкладчыка, вельмі глыбокія, розьніца з нашымі ВНУ каласальная.



Беларуская дэлегацыя ў Вашынгтоне

Па-першае, студэнты адразу пасьля паступленьня ў коледж ведаюць, куды яны трапяць працаваць. Калі студэнт атрымлівае падчас навучаньня вялікі бал, ён мае вялікі шанец уладкавацца ў буйную фірму зь вялікім заробкам. Пры працаўладкаваньні не бяруцца ў разьлік знаёмствы ці нейкі сацыяльны статус. Выпуснік павінен даказаць, што мае сапраўды грунтоўныя веды, за якія наймальнік гатовы плаціць.

Цікава таксама, што ў амэрыканскіх студэнтаў няма таго, што мы называем "практыка". Гэта не азначае, што ў коледжы даюцца толькі тэарэтычныя веды. Амаль на кожным занятку студэнты маюць шанец скарыстаць практычна свае веды. Даволі часта на сэмінарах разыгрываюцца сапраўдныя судовыя працэсы, з максімальнай дакладнасьцю імітуюцца розныя сітуацыі з практыкі юрыста. Да таго ж, пры коледжы існуе так званая "юрыдычная клініка", дзе разам -- прычым абсалютна рэальна -- працуюць выкладчыкі й студэнты. Яны аказваюць сапраўдныя юрыдычныя кансультацыі насельніцтву, разьбіраюць справы, такім чынам набіраючыся вопыту.

Кентскі юрыдычны коледж увогуле установа звышсучасная. Там існуе негалоснае патрабаваньне да кожнага студэнта - мець свой кампутар. Калі яго няма, кожны навучэнем можа ў любы момант скарыстаць з кампутаровае сеткі коледжу ў бібліятэцы ці адмысловых кабінетах. У кожнай лекцыйнай аўдыторыі маецца магчымасьць падключыцца да Інтэрнэту. Таму амаль усе студэнты сядзяць на лекцыях з ноўтбукамі. Дый самі лекцыі не падобныя на нашы. Тэма да іх даецца выкладчыкам загадзя, да лекцыі навучэнцы рыхтуюцца, а потым усё пераtвараецца ў сапраўдны дыялёг паміж імі й выкладчыкам. Ніякіх нудотных чытаньняў з паперкі - толькі жывая гутарка, тлумачэньне са зваротнай сувязьзю, якая забясьпечвае найлепшае ўспрыманьне матэрыялу.

Таксама адрозьніваецца ад нашай і сістэма спэцыялізацыі студэнтаў. У Амэрыцы ўвогуле кожны юрыст спэцыялізуецца на нейкай пэўнай галіне права. Ужо напрыканцы першага году навучаньня (усяго ў коледжы вучацца 3 гады замест нашых пяці) студэнты абіраюць сфэру юрыспрудэнцыі, у якой зьбіраюцца працаваць. І атрымліваюць максімальна глыбокія веды ў абранай галіне права, не надзяляючы гэткай увагі іншым навучальным дысцыплінам. Гэдак амэрыканцы разумеюць прафэсіяналізм -- ты мусіш ведаць усё ў сваёй сфэры. У нас жа праграмы перагружаныя рознымі прадметамі, якія не спатрэбяцца будучым юрыстам у іхнай прафэсійнай дзейнасьці.

***— Ці наведвалі вы афіцыйныя юрыдычныя ўстановы?***

— Безумоўна. Наша дэлегацыя азнаёмілася з амэрыканскай судовай сістэмай. У параўнаньні з нашымі судамі адразу кідаецца ў вочы вельмі значная роля адваката ў працэсе. Законам нават забараняецца падсуднаму выступаць без адваката. Якім бы не было стаўленьне да чалавека на лаўцы падсудных, у адзіным яму нельга адмаўляць -- у магчымасьці абараняць свае правы.

Калі ж казаць пра суды ўвогуле, то адразу ж заўважна адзінае. Самі будынкі гэтых установаў, манумэнтальныя й велічныя, выклікаюць павагу да ўлады, веру ў справядлівасьць суда.

***— Лічыцца, што Амэрыка найбольш свабодная краіна ў сьвеце. Ці адчула ты легендарны "вецер свабоды" Новага Сьвету?***

— Цяжка сказаць. Гэты вецер свабоды, напэўна, адчуваюць толькі самі амэрыканцы. Сапраўды, амэрыканскія законы ў галіне правоў чалавека нельга параўнаць зь беларускімі. Напрыклад, каля самага Белага Дому мы бачылі пікет праціўнікаў прэзыдэнта Клінтана і ягонай палітыкі. Каб правесьці гэткую акцыю, ня трэба браць ніякага дазволу -- любы чалавек у любы час у любым мейсцы можа ўстаць і ўзьняць плакат зь нейкімі патрабаваньнямі. Усё што ад яго патрабуецца для гэтага -- проста паведаміць уладам аб сваім намеры "папікетаваць". Вядома, улады могуць забараніць нейкую акцыю, але іхныя дзеяньні лёгка абскардзіць любы суд. Свабода слова й меркаваньняў для амэрыканцаў ёсьць нечым натуральным і абсалютна неабходным.

***— Якая была рэакцыя амэрыканцаў на тое, што ты зь Беларусі? Увогуле ці ведаюць яны пра нашу краіну?***

— Шчыра кажучы, веды амэрыканцаў -- асабліва маладых -- пра Беларусь даволі абмежаваныя. Шмат хто зь іх быў зьдзіўлены пачуць, што паміж Польшчай і Расеяй існуе яшчэ нейкая краіна. Сталыя людзі больш дасьведчаныя ў міжнародных пытаньнях. Некаторыя пыталіся, ці зьмянілася палітычная сітуацыя і становішча з правамі чалавека ў нашай краіне.

# "БЕЛПОШТА" СУПРАЦЬ НЕЗАЛЕЖНЫХ СМІ

**Беларускія ўлады не спыняюць спробаў перашкодзіць распаўсюду аб'ектыўнай і праўдзівай інфармацыі аб падзеях у краіне. Новымі ахвярамі антыдэмакратычнай палітыкі могуць стаць шэраг недзяржаўных выданьняў Беларусі.**

Рэспубліканскае аб'яднаньне "Белпошта" абвесьціла, што з другога кварталу ў паўтары разы павышаецца падпісны кошт на выданьні "Белорусская деловая газета", "Белорусский рынок", "Белорусская газета", "Комсомольская правда в Белоруссии", "Народная воля" і "Свободные новости". Усе гэтыя газэты маюць даволі вялікія наклады і карыстаюцца значнай папулярнасьцю й уплывам на чытачоў. Галоўная праблема, якую яны ствараюць для ўладаў, - іхняя незалежнасьць. На старонках гэтых выданьняў нярэдка зьяўляюцца матэрыялы, што выкрываюць антыдэмакратычнасьць сёньняшняга рэжыму на Беларусі. Загадаць рэдакцыям друкаваць ухвалы прэзыдэнцкіх дэкрэтаў ды інфармацыю аб надоях у перадавых гаспадарках улады ня могуць - выданьні не падпарадкоўваюцца ўладным структурам. Таму іх спрабуюць задушыць эканамічным шляхам.

"Белпошта" зьяўляецца манапалістам на рынку распаўсюду прэсы ў нашай краіне. З пачатку году тарыфы на паслугі гэтага аб'яднаньня ўзрасьлі ў 6 разоў. З-за гэтага ў незалежных выданьнях, якія не атрымліваюць шматмільярдных датацыяў ад дзяржавы, склалася парадаксальная сітуацыя, калі выдаткі на распаўсюджваньне газэты у некалькі разоў перавышаюць кошт стварэньня й выдруку выданьня. За кошт незалежных выданьняў "Белпошта" жадае аплаціць страты сваёй неэфектыўнай гаспадарчай дзейнасьці. Гэта значыць, чытачы апазыцыйнай прэсы будуць аплочваць кошты дастаўкі ўсіх газэтаў - дзяржаўныя выданьні па-ранейшаму будуць каштаваць капейкі й дастаўляцца "Белпоштай" па старых тарыфах.

Абгрунтаваць нейкім законным чынам дзеяньні дзяржаўнага манапаліста на рынку распаўсюду прэсы ў дачыненьні незалежных СМІ немагчыма. Адзінае тлумачэньне - беларускія (калі іх можна гэдак назваць) улады працягваюць уціск на свабоду прэсы ў нашай краіне. ■

# БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ПАРУШАЮЦЬ МІЖНАРОДНЫЯ ПАГАДНЕНЬНІ

## да гэткай высновы прыйшоў амбасадар ЗША пры АБСЭ сп.Дэвід Джонсан

**10 лютага амбасадар ЗША ў Пастаяннай Радзе Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтву ў Эўропе (АБСЭ) сп. Дэвід Джонсан заявіў, што Беларусь пагарджае меркаваньнем гэтай уплывовай эўрапейскай арганізацыі.**

"У крызісе палітычнае легітымнасьці ў Менску надыйшоў рэзкі паварот да горшага", -- сказаў амбасадар падчас свайго выступу паводле сітуацыі ў Беларусі. Па ягоных словах, улады краіны паказалі сваю непавагу да меркаваньня АБСЭ, прыняўшы антыдэмакратычны Выбарчы Кодэкс і парушыўшы шэраг абавязацельстваў у сфэры дэмакратызацыі, свабоды сродкаў масавае інфармацыі ды правоў чалавека.

На думку сп. Джонсана, прыняцьце Выбарчага Кодэксу засьведчыла, што беларускі ўрад парушыў шэраг дамоваў, якія былі прынятыя на вышэйшым узроўні. Па-першае, урад Беларусі парушыў дамову з апазіцыяй і кансультацыйна-назіральнай групай АБСЭ ад 15 ліпеня 1999 году. Згодна з той дамоўленасьцю, распрацоўка новага выбарчага закону павінна была стаць грунтам дыялёгу паміж урадам і апазіцыяй. Але Нацыянальны сход праігнараваў працэс гэтага дыялёгу, што вёўся пры ўдзеле АБСЭ.

Па-другое, праігнараваўшы й сарваўшы абмеркаваньне за круглым сталом пад эгідай АБСЭ, Беларусь парушыла свае абавязацельствы, што прадугледжаныя пунктам 22 Стамбульскае дэклярацыі. Пасьля сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Стамбуле, дзе Беларусь заявіла аб гатоўнасьці весьці перамовы з апазіцыяй, чалавек, які мусіў прадстаўляць уладу на перамоўным працэсе, быў вызвалены ад сваіх абавязкаў. Гэтае фактычна стала знакам, што ўлады не зьбіраюцца сядаць за круглы стол з апазыцыйнымі лідарамі.

Па-трэцяе, амэрыканскі амбасадар канстатаваў, што беларускія ўлады спрабавалі падмануць міжнародную супольнасьць, сьцьвярджаючы, быццам апазіцыя сама не захацела ўдзельнічаць у падрыхтоўцы Выбарчага Кодэксу. Нягледзячы на тое, што апазіцыйныя партыі й рухі накіравалі на разгляд уладам свае прапановы наконт законапраекту, Кодэкс аб выбарах застаўся амаль бязь зьменаў.

"За тры гады, што мінула з таго часу, калі сп.Лукашэнка справакаваў канстытуцыйны й палітычны крызіс, ягонаму Нацыянальнаму сходу так і не ўдалося атрымаць міжнароднае прызнаньне, -- заявіў сп.Джонсан. -- Гэты нелегітымны заканадаўчы ворган сёньня падтрымліваецца прэзыдэнтам, які не растаецца са сваімі ўладнымі паўнамоцтвамі, нягледзячы на тое, што законны тэрмін ягонага знаходжаньня на гэтым пасту скончаны".

Выйсьце з гэтага тупіка, на думку сп. Дэвіда Джонсана, -- у правядзеньні сапраўды свабодных і дэмакратычных выбараў, калі іх прызнаюць гэткімі ўсе палітычныя сілы на Беларусі й міжнародная супольнасьць. Аднак на падставе прынятага на Беларусі Выбарчага Кодэксу правядзеньне гэткіх выбараў застаецца немагчымым. ■

*аб Выбарчым Кодэксе і магчымасьці ўдзелу ў выбарах апазыцыі - чытайце ў наступным нумары бюлетэню "Наша права"*

## незалежныя выданьні - бясплатна

***Шаноўныя чытачы бюлетэню "Наша права"!***

**Калі Вы жадаеце атрымліваць усе наступныя нумары нашага выданьня - рабіце замовы па тэлефоне ў Наваполацку 5-41-30.**

Рэдакцыя гатова прапанаваць зацікаўленым асобам усе папярэднія нумары бюлетэню. На іх старонках можна прачытаць наступнае:

***№1 (лістапад'1999):***
інфармацыя аб дзейнасьці Праваабарончага Цэнтру "Вясна";
матэрыял аб падзеях Маршу Свабоды ў Менску ў кастрычніку 1999 году;
адміністратыўнае правапарушэньне: як трэба сябе паводзіць пры затрыманьні.

***№2 (сьнежань'2000):***
саюз Расеі й Беларусі: юрыдычны аспэкт;
зьмены ў Жыльлёвым Кодэксе РБ;
Усеагульная Дэклярацыя правоў чалавека.

***№3 (студзень'2000):***
правы ды абавязкі супрацоўнікаў міліцыі;
судовы працэс над былым прэм'ер-міністрам беларускага ўраду Міхаілам Чыгіром;
Міжнародны праваабарончы агляд.

Акрамя таго, усе жадаючыя могуць ***бясплатна*** атрымліваць наступныя выданьні:
***"Права на волю"*** - бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна";
***"Навіны Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"***;
***"Салідарнасьць"*** - газэта Беларускага Незалежнага прафсаюзу гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энэргетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў;
***"Гражданин и закон"*** - штомесяцовая інфармацыйна-прававая газэта;
***"Свабоднае слова"*** - дайджэст і інфармацыя (матэрыялы незалежнай прэсы);
***"Новы горад"*** - бюлетэнь Наваполацкага інфармацыйнага цэнтру Віцебскай філіі Фонду ім.Сапегі

Для таго, каб замовіць любыя з гэтых выданьняў, улучна з Інфармацыйным бюлетэнем **"Наша права"** - тэлефануйце **5-41-30.**

Пры Праваабарончым Цэнтры "Вясна"
*дзейнічае*
# ГРАМАДЗКАЯ ПРЫЁМНАЯ
**калі Вы лічыце, што Вашы грамадзянскія, працоўныя, сацыяльныя й іншыя правы парушаныя**
**зьвяртайцеся за нашай <u>БЯСПЛАТНАЙ</u> дапамогай**
**Кожны працоўны дзень**
**з 9 да 17 гадзінаў**
**па тэлефоне ў Наваполацку 5-41-30**